Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 17 (68). Вільня, Субота 19 Лютага 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Падданыя і вольныя грамадзяне.

Ужо ў самыя даўныя часы сярод плямён зьяўляюцца адзінкі, якія імкнуцца да ўлады і здабываюць яе. Паасобныя павадыры плямён вядуць між сабой барацьбу, каб скінуць адзін аднаго і мець пад сабой як найбольш падданых, якія былі на ўслугах сваіх паноў. Чым больш меў падданых уладар, тым сільнейшым і тым багацейшым ён быў. Нічога дзіўнага, што ўладары імкнуліся да заваяваньня іншых плямён, а пасьля і народаў.

Ня толькі падбітыя народы, але і народы маючыя сваю дзяржаву не зьяўляюцца поўнапраўнымі сябрамі сваей дзяржавы. У кожнай дзяржаве маем панующых і падданых. Панующыя пішуць законы, выдаюць і змушаюць сваіх падданых выпаўняць іх; першыя маюць толькі правы, другія—толькі абавязкі. Падданыя мусяць працаваць ня толькі на сваё беднае пражыцьцё, але і на сваіх уладароў—паноў, якія жывуць коштам працы падданых ды яшчэ зьдзекваюцца над імі. Паняцьце вольных грамадзян зусім ня існуе. Такі стан рэчаў трываў аж да францускай рэвалюцыі, якая аб'вясьціла, што ўсе жыхары дзяржавы зьяўляюцца вольнымі і роўнапраўнымі грамадзянамі.

Хоць ужо больш за 100 гадоў прайшло ад францускай рэвалюцыі, аднак дагэтуль лёзунгі гэнай рэвалюцыі ня ўвайшлі ў жыцьцё. Калі возьмем заходня-эўропэйскія дзяржавы, дык там хоць фармальна работнік, селянін і фабрыкант маюць роўныя правы, але фактычна палітычная ўлада належыць да капіталу. Капітал—багатыя людзі (фабрыканты, банкіры) кіруе грамадзкім і палітычным жыцьцём. Усе законы выдаюцца ў такой форме, каб выгаднымі былі для разросту капіталізму, да ўлады багатых над беднымі. Не згаджаючыся з такім ладам—перамогай капіталу над працай—даўнейшыя падданыя, а цяпер „вольныя грамадзяне“—работнікі, сяляне і працуючая інтэлігенцыя вядуць арганізаванае змаганьне з капіталам і штораз то больш заваёўваюць сваіх фактычных правоў.

З праўнага боку, калі ходзіць аб Польшчу, дык і ў ёй павінны быць ўсе вольнымі і поўнапраўнымі грамадзянамі. Але фактычнае жыцьцё вельмі далёка ўцякае ад юрыдычнага. Гэтая рожніца яшчэ большая чымся ў іншых дзяржавах. Законы царскія былі вельмі вострыя для працуючых масаў, а польскія шмат лепшыя, але фактычнае правядзеньне ў жыцьцё польскіх законаў так рожніцца ад пісаных уставаў, што царскія законы ў жыцьці былі шмат лепшымі.

Такім чынам у Польшчы маем ня вольных грамадзян, але падданых і паноў. Гэты падзел яшчэ яскравей выступае ў адносінах да Беларусаў. Беларусы зьяўляюцца працоўнай масай, вось гэту масу перадусім стараюцца выкарыстаць улады, бо на чале яе стаіць ніхто іншы, як паны. Нават такое малое становішча як старшыня воласьці (войт) абсаджана або шляхтуном або нейкім эканомам ці іншым панскім падлізьнікам. Становішчы старастаў і ваяводаў, ёсьць ведама, займаюць людзі з карэннай шляхты. Дык ці-ж людзі з шляхоцкага выхаваньня (або іх слугі) носячыя ў сабе ўвесь час традыцыі каралеўскай Польшчы, калі яны трымалі мужыка ў падданстве, могуць паставіць сябе на адным роўні з „хамам“ і лічыць яго роўным з сабой грамадзянінам?! Дык ці-ж такія выканальнікі ўлады могуць спаўняць лібэральныя законы?! Ці-ж такая ўлада можа лёяльна выконваць законы выданыя запраўды народным парлямэнцкім прадстаўніцтвам, зложаным пераважна з прадстаўнікоў працуючых масаў?!

Вось у гэтых пытаньнях месьціцца ўвесь трагізм аснаўных законаў Польшчы, увесь трагізм няроўнасьці грамадзян. Чым больш жывём, тым больш бачым, як паны бяруць усё ў свае рукі, зацiскаюць цуглі падданым. Ня страшыць, а падыхвочываць гэта павінна нас да яшчэ большай працы, над здабываньнем сабе правоў поўнапраўных грамадзян. Тых, што жывуць чужым коштам ёсьць мала, але маюць яны сілу дзякуючы арганізацыі. Але калі нас ёсьць шмат, дык мы зарганізаваныя, усьвядомленыя і навучаныя горам можам сьмела спадзявацца яшчэ большай сілы, якая дасьць нам правы вольных грамадзян.

# Аб арыштах у Заходняй Беларусі.

## Прамова пасла Ярэміча

### ў Сойме дня 4 лютага с. г.

Прашу Паноў! Мая сытуацыя цяжкая, бо з аднаго боку зьяўляюся адным з тых, з якімі вельмі востра змагалася Грамада, а з другога боку не зьяўляюся праўнікам і не магу так папраўніцку абхапіць рэч, як гэта папярэднія мае прамоўцы праўнікі абхапілі. Я хачу сказаць толькі некалькі слоў, як Беларус, як прадстаўнік беларускага народу, а таксама некалькі слоў аб палітыцы адносна нас, Беларусаў, якая бязсумліву адыгрывае першарадную ролю.

Прашу Паноў! Калі ўвайшлі мы ў Сойм і былі ў клюбе, на чале якога стаяў пасол Тарашкевіч і мы з'яўляліся аднэй з урадавых партыяў. Тады багатэлізаваны (змяншаны у павазе) быў беларускі клюб, тады багатэлізаваныя былі яго прадстаўнікі і з намі ніхто не гаварыў. Калі праз нейкі час, як гэта добра гаварыў адзін з маіх прадмоўцаў, беларускі рух прыняў колёсальны (вялізарны) размер, калі пачаў арганізавацца, крышталізавацца, тады толькі пачалі радзіць у рожных габінэтах аб тым, каб змагацца з гэтым рухам. Ужо некалькі месяцаў шовіністычная польская прэса падавала хвальшывыя весткі з аднога боку, а з другога інсьпіравала (падахвочвала) урад, каб ён як найхутчэй зьліквідаваў, зрасейска гэдак званую, „крамолу“ і вось знайшло гэта свае рэха так ува ўсім урадзе, як паасобна ў п. міністра Мэйштовіча, які зьяўляецца рэпрэзэнтантам абшарнікаў г. зв. крэсаў. І тут адзначыліся дзьве рэчы. З аднаго боку клясавая справа, а з другога боку палітычная расправа з беларускім нацыянальным рухам, як гэткім. Прашу паноў, некатарыя з партыяў і польская прэса сказалі, што мы не гаворым датуль, аж пакуль урад ня прыдзе ў камісію і ня дасьць канкрэтных фактаў. Сягоньня чулі мы з вуснаў прадстаўніка польскай лявіцы, што іх гэтыя факты не здавальваюць. Кожны з нас прачытаўшы тыя газэты, якія былі спэцыяльна інсьпіраваны тым духам, каб ачарніць прадстаўнікоў Беларускага Народу, думаў сапраўды, што даказы ёсьць. Аказалася, што ў камісіі ніякіх даказаў не пададзена. Зроблена тайнае паседжаньне дзеля таго, каб тайком гэна ўсё зрабіць, скарэй яго правясьці праз Сойм, каб гэта не папала ў прэсу і на публічную ацэнку. Прашу Паноў, я мушу сьцьвярдзіць тое, што з гэтай высокай трыбуны гаворана аб тым, што п. Тарашкевіч атрымаў 15.000 даляраў і толькі тады быў заложаны банк. Я заяўляю, што закладчыкам гэтага банку быў я, дык гэта няпраўда, бо банк быў заложаны на пачатку 1925 г. калі яшчэ Грамады ня было. Тут гаворана, прашу Паноў, аб транзыце, аб вельмі вялікіх сумах. Калі быў Беларускі Банк, калі перасылана праз гэты Беларускі Банк для беларускіх людзей перəказы па 5, 10 ці 15 даляраў, дык ці гэта зьяўляецца праступкам, а калі гэта ёсьць праступствам, дык падобна праўдзе. П. прадстаўнік міністэрства скарбу, які вельмі скрупулятна гэтыя рэчы сачыў, а нас Беларусаў, мае ў сябе на спэцыяльнай увазе, (ня буду на гэта даваць фактаў, доказаў), мог паслаць рэвізыйную камісію і калі былі круцельствы, дык мог зачыніць гэты банк; аднак гэтага не зрабіў, дык круцельства і непазволеных апэрацыяў гэты банк не рабіў. Прашу Паноў, тут гаворана аб тым, што пас. Тарашкевіч узяў 15.000 даляраў? Праўдзіва калега Лібэрман зазначыў, якім манерам гэта сталася, каб Тарашкевіч быў так наіўным, што калі браў ад прадстаўніка сумежнай дзяржавы грошы, дык браў з сабой сьведкаў. Але дзе доказы, што так гуртом бяруць усіх гэных пяць паслоў. Прашу Паноў, закінена паслу Валошыну, што ён кіруе і зьяўляецца арганізатарам Мопру (Міжнар. Обществ. Прапаганды). А я зьвяртаюся да Пана Міністра Справядлівасьці:

Некалькі месяцаў перад гэтым падалі мы заяву да Міністра Справядлівасьці аб тым, каб пазволіў стварыць беларускі патронат, на чале якога меўся стаць п. ген. Бабянскі. І да сёнешняга дня ніякага адказу ня дана.

Ці Паны жадаеце, каб тыя, якія сядзяць масамі ў вастрозе, умiралі з голаду, каб мы як прадстаўнікі і сыны таго самага народу і іх браты, ім не памагалі? Дык тады будзеце хадзіць кругом, бо калі 99(%) арыштуюць, а жонкі іхнія і дзеці будуць прыхадзіць у вастрог, скажыце, што наладжываюць Мопр і ізноў будзеце іх саджаць у вастрог... Чаму Паны не

